# З Першамаем, сябры!

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 35 (1672) | Аўторак, 1 мая 1962 года | Цана 4 кап.

* * *

Дзень добры, май!
Твой подых жыватворны
Я чую зноў.
Не ведаючы меж,
Ідзеш ты,
свежы,
малады,
задорны,
Ідзеш і промні светлыя нясеш.
Сыпнеш іх шчодра —
зацвітаюць вішні,
Яшчэ сыпнеш —
зазелянее луг.
А вунь у поле хлебаробы выйшлі,
І зіхаціць на сонцы востры плуг.
І ў кожным сэрцы,
маладым і чулым,
Яшчэ мацней жаданне закіпіць —
Пайсці ў нагу з жывым маёвым гулам,
Смяяцца, весяліцца і любіць.
А на зямлі ёсць радасцей багата.
А больш за ўсё
іх ведае мой край.
Дзень добры,
наша сонечнае свята!
Дзень добры,
наш вясёлы Першамай!

Анатоль ВЯРЦІНСКІ.

# СОНЦА НАД ЗЯМЛЁЙ І Ў СЭРЦАХ

НА ВУЛІЦЫ — першамайскія сцягі.

На вуліцы — зззяючыя твары маладых і маладыя ўсмешкі старэйшых.

Першамай — свята вясны і маладосці. Сонечныя праменні сёння асабліва ласкавыя і жаданыя, неба — бяздоннае і чыстае, зямля пад ім — прыхарошаная.

Няма чалавека, які б не адчуў прыліву сіл і бадзёрасці, гледзячы на гэтае веснавое абнаўленне. Няма чалавека, чыё б сэрца соладка не зашчымела ад пяшчотнага блакіту пралесак і свежай зеляніны, што акаймоўваюць сёння чырвань святочных транспарантаў.

Такое ж бурлівае веснавое абнаўленне ва ўсім нашым жыцці. Сёлета яго подых асабліва шырокі і жыватворны. Велічныя перспектывы адкрыты перад намі XXII з'ездам партыі і прынятай ім Праграмай КПСС. Апошняя сесія Вярхоўнага Савета СССР зацвердзіла хвалюючае рашэнне аб выпрацоўцы праекта новай Канстытуцыі СССР — Канстытуцыі, што адлюструе новы этап у развіцці савецкага грамадства і дзяржавы, узніме на яшчэ больш высокі ўзровень сацыялістычную дэмакратыю, падрыхтуе ўмовы для пераходу да грамадскага камуністычнага самакіравання.

Прадвесне камунізма ідзе па савецкай зямлі. Прадвесне грамадства, аб якім спрадвеку марыла чалавецтва, — грамадства Міру, Працы, Свабоды, Роўнасці, Брацтва і Шчасця ўсіх народаў.

— Дзеячы літаратуры і мастацтва! — заклікае Цэнтральны Камітэт КПСС. — Ярчэй адлюстроўвайце ў сваіх творах веліч і прыгажосць гераічных спраў савецкага чалавека! Змагайцеся за высокую ідэйнасць твораў і мастацкае майстэрства, за цесную, непарыўную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа, з задачамі камуністычнага будаўніцтва!

З жыццём народа, з задачамі камуністычнага будаўніцтва... Што можа быць больш пачэснае для пісьменніка, артыста, музыканта, мастака, чым сэрцам і талентам сваім адгукнуцца на гэты баявы заклік партыі! Што можа быць большым шчасцем, чым усведамленне, што творчасцю сваёй ты памагаеш духоўнаму фарміраванню пакалення, якое пабудуе камунізм, якое будзе жыць пры камунізме!

Кожнае свята — гэта агляд перамог і дасягненняў народа. Як жа і нам, працаўнікам беларускай літаратуры і мастацтва, не азірнуцца з гонарам на поспехі, якімі сустрэлі мы сёлетні Першамай. Мы шчыра радуемся яшчэ аднаму сведчанню найшырэйшага прызнання беларускага мастацкага слова — прысуджэнню Ленінскай прэміі народнаму паэту Беларусі Петрусю Броўку. Мы яскрава бачым, як наогул з дня на дзень расце папулярнасць беларускай паэзіі, прозы, драматургіі, беларускага тэатра, выяўленчага мастацтва, музыкі. Мы вітаем бурны прыход маладых сіл ва ўсе жанры беларускай літаратуры, ва ўсе галіны беларускага мастацтва. У Першамай, свята маладосці, гэты факт асабліва прыемна адзначыць.

Але выйдзем на вуліцу, станем у першамайскія калоны. Паглядзім на людзей, якія крочаць пад святочнымі сцягамі. Паклаўшы руку на сэрца адкажам: ці ўславілі мы ў сваіх творах савецкага чалавека, нашага цудоўнага сучасніка так, як ён таго варты? Ці ўзняліся ў сваім майстэрстве настолькі, каб стварыць паўнакроўны вобраз героя нашага часу?

Безумоўна, ён вельмі складаны, гэты герой — савецкі чалавек шасцідзесятых гадоў дваццатага стагоддзя. Чалавек, які заваёўвае космас і ў той жа час па-дзіцячаму радуецца пухнатым пупышкам веснавога вербалозу. Чалавек, якога хвалюе і раскрытая таямніца атама, і добры верш у новым часопісе. Чалавек, здольны на высокі подзвіг, на найглыбейшыя пачуцці, на самаахвярнасць, і ў той жа час надзвычай скупы на дэкларацыйнае выяўленне ўсіх гэтых здольнасцей.

Так, ён часам крыху іншы аблічам і характарам, чым былі яго дзед і бацька, — гэты слаўны чалавек, герой нашага часу. Але ўсе мы сведкі таго, што ён — найцудоўнейшы прадаўжальнік рэвалюцыйных традыцый мінулага, выдатны патрыёт, магутны ператваральнік. Нялёгка стварыць яго вобраз у кнізе, кінафільме, спектаклі. Але каму ж гэта і зрабіць, як не нам, сябрам яго і сучаснікам! На беларускай зямлі Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў сказаў хвалюючыя словы, поўныя давер'я і павагі да савецкай літаратуры і мастацтва:

«Думаю, што пісьменнікі знойдуць падыходзячыя словы і вобразы, неабходныя фарбы, каб перадаць не толькі цяперашняму пакаленню савецкіх людзей, але і расказаць нашым нашчадкам аб тым, як у гераічныя гады барацьбы за камунізм працавалі рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя, з якім энтузіязмам народы ўсіх брацкіх рэспублік Савецкага Саюза ўзводзілі светлы будынак камунізма».

Сонца Першамая ўсё вышэй і вышэй над зямлёй. Колькі людзей на планеце радасна вітаюць яго сёння! Першае мая — свята міжнароднай салідарнасці працоўных. Хораша ўсведамляць, што да Крамля, да Масквы, да Савецкай краіны звернуты ў гэтыя хвіліны мільёны і мільёны позіркаў, поўных удзячнасці і спадзявання. Удзячнасці за цвёрдую палітыку міру, якую рашуча і паслядоўна праводзяць нашы партыя і ўрад.

Хораша ўсведамляць нам таксама, што роля літаратуры і мастацтва ў гэтай барацьбе—вялізарная. Аднолькава аўтарытэтным папярэджаннем падпальшчыкам вайны гучаць як голас прадстаўнікоў савецкай грамадскасці на разнастайных міжнародных канферэнцыях, так і выдатныя выступленні на зарубежнай сцэне слаўтых савецкіх выканаўцаў і творчых калектываў. А сярод кніг, якія расказваюць свету вялікую праўду аб нашай краіне, якія паспяхова памнажаюць за рубяжом рады нашых сяброў і прыхільнікаў, — сярод кніг гэтых пачэснае месца займаюць і лепшыя творы нашай беларускай літаратуры.

...На вуліцы — першамайскія сцягі.

На вуліцы — зззяючыя твары маладых і маладыя ўсмешкі старэйшых.

Народ — будаўнік камунізма — шчасліва і радасна адзначае вялікае пралетарскае свята.




# Пяць паверхаў радасці

У горадзе вырас новы дом — яшчэ адзін сярод соцень іншых дамоў нашага прыгажуна Мінска. І ўсё ж кожны з іх—ці то ў мікрараёнах па вуліцах Волгаградскай і Розы Люксембург, ці дзе-небудзь у іншым месцы— кожны з іх радуе: у ім будзе жыць наш чалавек.

Дом, аб якім пойдзе тут гутарка, вырас у новым мікрараёне. Напярэдадні свята ён атрымаў свой адрас: Кахоўская, 66...

І вось мы стаім перад ім. Праменні яркага вясновага сонца падаюць на бялюткія сцены, зіхацяць у шыбах соцень, а мо і тысячы вокнаў.

Так і хочацца сказаць яму:

— Добры дзень, новы дом! Добры дзень, людзі новага дома!

Хто вы? Як пачуваеце сябе тут, дзе будзеце жыць, працаваць, дзе будзеце падчас сварыцца і мірыцца, дзе будзеце кахаць і нараджаць дзяцей?

Восемдзесят кватэр, чатыры пад'езды. У каторы зайсці?

Да першага падыходзіць машына. Прыехала яшчэ адна сям'я. Знаёмімся. Слесар-сантэхнік домакіраўніцтва № 2 Ленінскага раёна Канстанцін Антонавіч Штанюк. Сям'я — чатыры чалавекі: жонка Ніна Юльянаўна, пляменніца Люда Мілішкевіч — швейніца-загатоўшчыца абутковай фабрыкі імя Калініна і сын — сямікласнік Валерык. Усе крыху ўзрушаныя, крыху, нават мо залішне, мітуслівыя. Выгружаюць стол, буфет, ложак. Гаспадар усміхаецца:

— Неяк няёмка браць з сабой у новую кватэру старыя рэчы. Вось і вырашылі прыдбаць...

Ніна ж Юльянаўна з жаночай шчырасцю расказвае:

— Ведаеце, стольki перад святам наваселляў, што дастаць патрэбную рэч не так і лёгка. Сталом і буфетам задаволена, а вось ложак... Хацелася б купіць драўляны...

— Ну-ну, не трэба, — спыняе яе Канстанцін Антонавіч, — навошта зараз аб гэтым? Кватэра (мы ў трэцяй) спадабалася нам дужа. Светлая, прасторная... Жыві ды і толькі. Так што рады мы ўсе. А з радасцю і жыць лягчэй, і весялей.

Мы не сталі перашкаджаць ім уладкоўвацца і падаліся на другі паверх.





